Hod VIII. Studzień 1936 h. № 1.

# Шлях Моладзі

# Šlach Moładzi



...„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА КУПАЛА.





VILNIA

Bielaruskaja Drukarnia im. Franciška Skaryny — Vilnia, Zavalnaja vul. 1—2.

ЗЬМЕСТ № 1:

1. * * * — М. Машара; 2. Нашыя галоўныя задачы — Я. Н.; 3. У завею, 4. Песьні, 5. Сьнег — Максім Танк; 6. * * * — Вера Былінка; 7. Першая вясна — Міхась Васілёк; 8 Сьнег — Уладзімер Сіўка; 9) Пойдзем хлопча — П. Завея; 10. Cieśli — V. P.; 11. Na Biełaruś — Lavon Burałom; 12. Вынікі Літаратурнага Конкурсу „Шляху Моладзі“ — Рэдакцыя „Шляху Моладзі“; 13 Vystaŭka abrazoŭ Piotry Sierhiejeviča — Dr. J. Malecki; 14. Kot i ŭmałotnaść čyrvonaj kaniušy — M Karalenka; 15. Jubilej litoŭskaha časapisu „Jaunimo Draugas“; 16. Koń i sabaka — J. Vilkoŭščyk; 17. U kućciavy viečar — Jurka Bahun; 18. Z Kraju; 19. Sudy: 20. З выдавецкай нівы; 21. Хроніка; 22. U biełaruskich skaŭtaŭ; 23. U bieł. studentaŭ; 24. Usiačyna; 25. Паштовая скрынка; 26. Куток разрывак.

**Усіх, хто атрымлівае „Шлях Моладзі“ просім прыслаць залучаным да гэтага нумару „przekazem razrachunkowym“ належную нам складку, бо іначай высылка часапісу будзе устрымана.**

**Адміністрацыя „Шляху Мол.“**

## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — А, а. | J, j — Й, й. | R, r — Р, р. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — С, с |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | Š, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — К, к | T, t — Т, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — М, м. | W, w, V, v — В, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — Н, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — Х, х. | O, o — О, о. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I i — І, і | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |

„Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Складка на 1 месяц 30 гр.; на 3 месяцы 50 гр., на паўгода — 1 зл., на год — 2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 1—2

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Год VIII. | Вільня, Студзень 1936 г. | № 1 (87).

**Міхась Машара**

* * *

Я адну нашу надзею,
Што народ наш так жывуч:—
Ён стагодзьдзямі гібее,
Дух-жа — вольны і магуч.

І гаючае крыніцы
Не пайду шукаць нідзе;
Веру, – немач ўся прасьпіцца
І Ён знова жыць пачне.

* * *

*Прысьвячаю*
*Беларускай Студэнцкай Моладзі*

Мы ў паходзе да лепшага заўтра,
Ставілі вехі на новым шляху.
Піонеры надходзячай праўды,
Ёй складаем мы гымн на сьпяху.

Ні да зор... ні да сонца у небе, —
У жыцьцё да жывых мы ідзём.
І за лусту працоўнага хлеба
Бой цяжкі і упарты вядзём.

А над намі і цёмна і хмурна,
Панавісла начная імгла,
І трывога надходзячай буры
Навакола усіх абняла.

Б'юцца ветры шалёныя люта,
Гнуцца дрэвы да самай зямлі.
Зьдзек... цярпеньне... жуда і пакута
Зноў крывавіць зямлю пачалі.

Над усімі таёмнай пагрозай
Чорна-крылая гібель вісіць.
— Гэй, на бок! Не стаі на дарозе!
Мы ідзём руйнаваць і тварыць.

Біся сэрца пад замець трывогі!
У грудёх і надзея і страх.
Толькі ў буры знайдзём перамогу,
Толькі з бурай пралажым наш шлях.

# НАШЫЯ ГАЛОЎНЫЯ ЗАДАЧЫ

Час хутка ляціць. Вось 1935 год ужо за намі, а прад намі новыя дні новага 1936 году. Час ляціць, а і жыцьцё не стаіць, а плыве ўсьцяж наперад.

Прад намі ўжо VIII год працы. Паўстаюць новыя пляны і намеры. Дзе натужыцца, што націснуць, як быць найбольш карысным Беларусі — вось пытаньні, якія цісну̀цца на вусны і пад пяро.

Год 1935 прайшоў. Цяжкі ён быў нашай вёсцы, народу, але прынёс ён, хоць невялікае, ажыўленьне ў нашае жыцьцё. На ніве беларускай: палітычнай, грамадзкай і культурнай, а нават і рэлігійнай, ня глядзячы на ўсе перашкоды, рух узмоцніўся. Беларусы мацней заварушыліся. — Новыя партыі, часапісы, лекцыі ў Вільні і на вёсцы, прадстаўленьні беларускія ня толькі ў сваіх арганізацыях, але і ў польскіх, новыя кніжкі, новыя людзі, паэты і пісьменьнікі, банкруцтва чужых ор'ентацыяў, аканчальны развал полёнофіліі— вось што нам прынёс 1935 год.

Рух беларускі ўзмоцніўся. Агульнае аднак палажэньне не палепшала, а наадварот—пагоршала. Сяляне недаядаюць і гнуцца пад цяжарам падаткаў. Сярод народных гушчаў, а ў асобнасьці сярод беларускае інтэлігенцыі безрабоцьце. Беларуская моладзь ня мае роднае беларускае школы. Дарастаючае пакаленьне адцятае ад свае літаратуры. Яно ня знае гражданкі і ня можа карыстаць з свае культурнае скарбніцы. Беларускія газэты што раз часьцей выходзяць белабокімі. Суды працуюць...

Перажываем цяжкі, можа найцяжэйшы пэрыяд у сваім адраджэньні. Перажываем адначасна і час вельмі трывожны. У гарачай Афрыцы кіпіць вайна. Неспакойна ў Азіі, ды і ў Эўропе ня ўсё ў парадку. Слова „вайна“ што-раз часьцей паўтараецца і сапраўды ў недалёкай будучыні могуць наступіць вялікія падзеі і зьмены.

Але ня будзем далёка сягаць вокам і варажыць, а вернемся йзноў да Вільні і да роднае вёскі.

Нам беларусам ня трэба ні навошта аглядацца, а працаваць на ніве адраджэнскай. Нашай першай задачай, як часапісу моладзі, ёсьць навязаць як найцясьнейшую з ёю лучнасьць, узгадоўваць яе на патрыётаў, будзіць да працы, усьведамляць, аб'едчываць, супольна працаваць на карысьць Беларускага Народу, на карысьць Беларусі, змагацца за яе правы, адсоўваючы на старану свае партыйныя пераконаньні, пагляды.

Патрэбнае аб'еднаньне. „Шлях Моладзі“ йзноў паўтарае свой заклік да бел. моладзі, да маладых беларускіх літаратараў: аб'еднацца ўсім пад бел-чырвона-белым сьцягам,

адкінуць доктрынэрства, бо на яго не пара, а ўзяцца за пазытыўную працу, гуртуючыся каля „Шляху Моладзі“, як адзінага безпартыйнага, дэмократычнага часапісу беларускае моладзі.

„Шлях Моладзі“ мусіць быць часапісам даступным для ўсіх. А знача „Шл. Мол.“ мусіць больш друкавацца лацінкай, бо вымагае гэтага жыцьцё. Вымагае гэтага беларуская моладзь з польскіх школ і нават студэнты, якія кончыўшы польскія гімназіі зьяўляюцца часта сьведамымі беларусамі, а ня знаюць гражданкі. „Шлях Моладзі“ ўрэшце павінен далей узбагачваць свой зьмест і ймкнуцца заснаваць арганізацыю беларускае моладзі.

Найважнейшай аднак у сучасны мамэнт ёсьць справа агульна-беларуская, справа найбольш актуальная, гэта патрэба беларускае роднае школы, асьветы.

У № 13 (86) „Шл. Моладзі“ мы ўжо кінулі кліч: Усе на культурны фронт, за родную беларускую школу, за асьвету!

Беларускі Нацыянальны Камітэт у Вільні выдаў адозву і заклікае ўсе бел. культурныя арганізацыі і грамадзянства да падаваньня школьным уладам дэклярацыяў з дамаганьнем беларускіх школаў.

Цэнтральны Урад Беларускага Інстытуту Гасп. і Культуры пастанавіў сёлета праводзіць народны плебісцыт за беларускую школу, шляхам складаньня тых-жа дэклярацыяў.

Мы, моладзь, першыя павінны адклікнуцца на гэтыя заклікі і пастанову. Мы першыя павінны заняцца справай падаваньня дэклярацыяў на беларускую школу. Мы павінны хадзіць з хаты да хаты, забіраць подпісы на дэклярацыях і высылаць іх польскім школьным уладам*). Не чакайма, каб гэта рабілі нашы бацькі. Яны часта так змучаны і прыбіты жыцьцём, што ім цяжка гэта рабіць. Ды гэта-ж ня толькі іх справа, але і нас маладых. Акцыя праводжаньня народнага плебісцыту за родную беларускую школу няхай будзе і нашай акцыяй. Няхай будзе яна галоўнай нашай задачай на 1936 г.

Памятайма, што праз родную школу, асьвету дойдзем да палепшаньня нашага быту, да сьвятла да лепшае долі!...

Дык усе да працы!..

Я. Н.

---

*) Інструкцыі, дэклярацыі і іншыя друкі на жаданьне бясплатна высылае Беларускі Інстытут Гасп. і Культуры — Wilno, Zavalnaja 1—1.



## У завею *)

Вязень
Памёр малады, —
На вастрожным шпітальным дварэ.
Плакаў дзень шэры
Белымі ком'ямі сьнегу...
Плакаў і вецер
Паўночны між крат
На дроце калючым,
На вастрожным шпітальным дварэ.

Ліст яму з дому прыйшоў.
Пішаць — хутчэй адпішы.
Літары коса, няроўна...
Пэўна пісаны рукою працоўнай,
Рукой ад плуга і касы.

Лісту таго не чыталі яму.
Плакаў дзень шэры
Белымі ком'ямі сьнегу...
І на вастрожным шпітальным дварэ,
На дроце калючым —
Плакаў і вецер паўночны
Звонка,
Балюча.

Пількаўшчына. 1935.

## Песьні

Эх вы песьні,
Мае песьні
З ніў, з вяршына горных;
Ад плуга, касы
Мазольнай
Ад барозен чорных.

Не пісаў-бы,
Не складаў-бы
Думы мае песьні,
Каб не вецер,
Не зялёны —
Вецер на прадвесьні;

Каб ня верба
Над магілай.
І ня шум бярозкі
Над гасьцінцам
Сіратлівым,
Над радзімай вёскай;

І ні кагарак
Пужлівых
Над балотам шэраг...
Каб ня білась
Гэтак Нарач
Аб пяшчаны бераг.

Каб ня тыя
Маладыя
Дні ў мурох вастрожных.
Песьні скутыя,
Жывыя
З каляін дарожных;

Каб ня сокалаў
Тых стада,
Што ў мурох закулі —
Эх, вы думы —
Мае песьні,
Людзі-б вас ня чулі!

Вільня, 1935.

*) Атрымалі мы да друку творы маладога бел. паэта М. Танка. Восьжа дзеля азнаямленьня нашых чытачоў з імі зьмяшчаем асабліва характэрныя тры вершы з цыклю п. н. „З шэрай цэглы".

## Сьнег

І вечар адыйшоў із вуліц сіратлівы,
Жабрачка ноч прыйшла у рызманох.
І доўга гаварыла штось пра нівы,
Пра весткі з меж вузкіх, з дарог.

Казала і аб тым, што на шляху гаротным
Між хат крывых і саламяных стрэх
Раскінула зіма узорныя палотны,
Крыштальны сьнег.

Чакаў. Ноч ткала казку з пэрлаў чорных
З далёкіх слоў ў мазаікі узор,
Да дня, пакуль на шляху зорным
Ня стала зор...

**Вера Былінка**

* * *

Усю ночку зімову ня спала-б здаецца.
Глянь месячык міла так ветла сьмяецца,
Усё срэбрам заліта, не сон то, о — не!
Вун зорачкі краскі гараць ў вышыне.

Вось гэтакай ночкай жадала-б душа,
Дарожка мая каб далёка ішла:
Праз бор, праз палі, там дзе рэчка бяжыць.
Старонка, табой любавацца і жыць...
На вербы, бярозкі, што ў полі растуць.
На родныя вёскі, дзе брацьця жывуць.

О край, дарагі мой, нейк сэрца баліць—
Табе прыгажэйшых няма на зямлі,
Чаму-ж гэтак цёмна у хатках тваіх,
Чаму у правох ты няроўны людзкіх...
Беленькія хмаркі па небе плывуць
А думкі бунтарна бягуць, дзесь бягуць...

**Міхась Васілёк**

## Першая вясна

(Прысьв. сынку).

Вочкі—краскі сінія
Мругалі, сьмяяліся,
З сонейкам дзіцячыя
Ручкі абнімаліся.
Першы раз вясна яго
Песьціла — дабрыніла,
На сьвет госьця новага
Жартаўліва прыняла.
Ён у ручкі кволыя,
Лавіў грыву сонейка, —
Што ірдзела полымем,
Полымем чырвоненькім.

Лепятаў — ня знаючы
Жыцьця з шэрай звадаю,
Веснарунь вітаючы
Моваю нязнанаю...
Ты расьці, расьці дзіцё,
Будзь дубком асілачкам —
Страсянуць каб мог жыцьцё,
Паказаці сілачку...
Вочкі васільковыя
Хай-жа не туманяцца —
Мы здабудзем новыя
Дні, з маёвай раніцай!

Уладзімер Сіўка

## Сьнег

І ляцяць і ляцяць на зямлю матылькі
Цэлым роем пушыстых пылінак,
Засьцілаючы лёд серабрыстай ракі
І чапляючысь дрэваў галінак.

Ткуць тканіну сваю на прасторы зямлі,
Убіраюць лясы ў свае шаты,
Зараўноўваюць барозны сьвежай ральлі
І пудруюць вясковыя хаты.

Ў лесе хвоя стаіць увабраная ў бель,
Як-бы тая к вянцу маладая,
А кругом ля яе сьняжок сьцеле пасьцель,
Дуб-жа ёй барадою ківае.

Па каберцу, як пух, падарожны ідзе,
Ногі топчуць сьняжынак крышталі,
А сьляды яго ног, хоць нячутна кладзе,
Матылёчкі ізноў замяталі.

Хлопчык выйшаў на двор падзівіцца на сьнег,
Ён рукамі пылінкі хапае,
Злавіў некалькі—борзьдзенька ў хату пабег,
Ў ручкі глянуў — і ўжо іх ня мае.

І ляцяць і ляцяць на зямлю матылькі,
Цэлым роем пушыстых пылінак,
Засьцілаючы лёд серабрыстай ракі,
І чапляючысь дрэваў галінак.

Наваградчына.

П.Завея

## Пойдзем хлопча

Пойдзем хлопча! Пойдзем браце!
Пойдзем жыцьцё будаваць;
З цёмнай ночкі да сьвітаньня
Будзем сілу гартаваць.

Гэй-жа, хлопча, ў край шчасьлівы
Сам ідзі і кліч другіх,
З поўнай верай у змаганьне!
Сіла, моц —у нас самых.

Глянь — старыя ўсе заняты:
Йдуць наперад з кожным днём,
Мы-ж над нашым Родным Краем
Маладняцкі марш пяём.

Маладэчаншчына.

## Z I M O J



Na lodzie.



Francyju naviedała strašnaja pavodka. Na rysunku zalitaja vulica vioski.

# C i e ś l i.

— Pamahaj Boh!

— Dziakuj, dziakuj, Boh vas abdary!—adkazali cieśli, jakija budavali pry darozie chatu, na vietłyja słovy prachodziačaha i padnialisia na chvilinu ad svajej raboty. Apirajučysia ž na svaich ciasielskich pryładach, hladzieli, chto idzie.

— Jak-ža jdzie rabota?

— A ot, pamaleńku, siak-tak robicca.—Nie na doŭha adnak zatrymalisia cieśli. Chutka jany iznoŭ naplavali na mazolnyja ruki, krepka zacisnuli taparyščy i pačulisia dalej stuki.

— Rym, rym...

Dvoje z ich dalej češuć ścieny na kant z hrubych sosnaŭ biełaruskaha lesu, dvoje piłoj pa znakoch architekta režuć, dzie jak treba, až piła piščyć, a adzin akaračyŭ šuło i dołatam dziry dziaŭbie. Majstar z ałavikom čyrvonym za chalavaj adnej, a mierkaj za druhoj chodzie, dahladaje, dumaje, u hałavie składaje, mataryjał vybiraje. Jon usiudy.

— Rym, rym — bojka rubajuć cieśli. Bliščać siakiery ŭ załacie sonca, treski pyrščuć uvakruh, u dałoniach taparyščy ślizhajuć.

Rabota jdzie, až burčyć, haryć prosta ŭ pracavitych rukach.

Hrrr...hrrr... ihraje stalnaja piła tudy i siudy, vykidajučy kožny raz spraviadłiva adnolkavuju kolkaść piłavinaŭ. Ni dziaržycca jana ani rytmu, ni taktu rubańnia, ni paŭtareńnia dołata, tolki svajo harkoča.

Balać sustavy i muskuły ŭ natuzie, pot prylaplaje da cieła kašulu, vočy zalivaje, napłyvaje ŭ vusny. Pryjšoŭ haspadar z synkom, hladzić rady i viasioły na pracu. A majstar uznoŭ častki ličyć, ałavikom znača. Jość usio, što treba, dyk havora da haspadara:

— Nu, Janka, pakliččie susiedziaŭ, za dźvie hadziny najbolš, budziem krokvy staŭlać!

A niechta z cieślaŭ pytaje małyša:

—Budzieš, Kaziuk, pamiatać, jak tata chatu staŭlajuć—što?

Chłapiec krucicca kala baćki, na cieślu spaziraje zajzdrosna. Chto viedaje, mo' u hałoŭcy svajoj ciamie, ci jon patrapić budavać, kali bolšy budzie.

Pryjšli ŭžo i susiedzi, i chto tolki byŭ—uzialisia stavić krokvy.

— Nu, chłopcy! — kryčyć majstar — dobra tam u vas?

— Dobra!

— A ŭ vas jak?

— Dobra jość!!

— Hurra!!!

Učapilisia ruki, natužylisia plečy. Aplečki stojka padsadžvajucca pad kałodu, ciažar strašenny — až žyły nałobie zhrubieli, u vačoch ahni pakazalisia, a kroŭ da karku nabiehła, ale pastavili.

— Dalej-ža!

Niezadoŭha vianok z kvietkami i ziołkami i kryž na žerdcy zakrasuje. Ciešacca ŭsie, haspadar i cieśli zamučanyja i susiedzi, što dajuć pomač. Udziačny haspadar usich da chaty zaklikaje i čym moža častuje, a tut-ža i hutarka pływie:

— Što čuvać. Končyli ŭžo rabotu?

— Zdajecca što tak, ale šmat čaho treba jašče rabić.

— Ciažka, mnoha treba natuhi, kryvi i potu, mnoha achviaraŭ. Ale dajom rady. Padatki vialikija, ziamli mała, nijak žyć nia možna. Sekvestratary „urzędują" ŭdzień i noč. U mianie lepš, bo nia było čaho brać.

— He... he...

— — — — — — — — — — — — — — —

Končyłasia biasieda.

Haspadary pajšli da svaich chataŭ, a cieśli sieli na muraŭku krychu adpačyć. Son-ža achapiŭ ich zmučanyja košci. Niadoŭha adnak spali. Pieršy abudziŭsia stary Pilip, bo sierabrystaje sonca praz listočki zabliščeła na jahonym abliččy. Paciahnuŭsia i zastahnaŭ Stasiuk i pačaŭ rukami pracirać vočy.

— Nu, ustavaj, bratočak,--adazvaŭsia Pilip,— skažy chutčej, što tabie śniłasia Mo' jznoŭ chaty abšyrnyja i vialikija staviŭ u kvietnych sadoch.

— Et, — što-ž tam son — užo ad pačatku śvietu stavili i staviać henaje, a tak niejk niaŭdała, biaz fundamantu, biaz praŭdy, što tolki biada biadu pahaniaje i kryŭda ŭściaž našamu narodu dziejecca. Mąhčyma, što drennyja cieśli i majstry byli i treba było-b samym usio na nova stavić.

— Tak, bratki, — kryknuŭ druhi, padyjmajučysia z sonnaści z poŭnymi hrudziami viery i maładoj siły, — ad novaha tre' stavić.

— Praŭda, praŭda!..

— Dyk supolna ŭsie da raboty! Niachaj natužacca muskulistyja ruki, niachaj ciahnuć dzierava, niachaj braščać siakiery, harčać piły i pry budovie novaj chaty, niachaj pracujuć supolna sotni i tysiačy cieślaŭ.

— Dalej chłopcy, dalej!—

— Hurrra!... **P. V.**

## Na Biełaruś

Dzie siastryca piaje
Jak kudzielu pradzie
 Rviecca dumka maja.
Tudy chočacca mnie
I na javie i ŭ śnie,
 Bo tam pieśnia svaja.
Dzie hudzić ciomny bor
Da siahońniašnich por
 U zadumie śviatoj.

Tudy rvusia dušoj
Tam mnie budzie spakoj
 Bo tam kraj rodny moj.
Dzie mahiły dziadoŭ
Ad minułych hadoŭ
 Vyrastali z pakut.
Tam spakoj budzie mnie
U svajej staranie
 Bo tam rodny moj kut.

**Lavon Burałom.**

# Вынікі Літаратурнага Конкурсу „Шляху Моладзі"

Маючы сувязь з беларускай моладзьдзю, асабліва тою, каторая хапае за пяро і хоча пробаваць сваіх літаратурных здольнасьцяў, мы заўважылі, што моладзь наша пераважна бярэцца пісаць вершы. Добрае гэта ці кепскае зьявішча, ня будзем цяпер гаварыць. Сьцьвердзім адно, што ў галіне беларускае літаратуры Зах. Беларусі дагэтуль бадай толькі разьвівалася паэзія, а проза недацэньвалася і адставала.

Вось-жа рэдакцыя „Шляху Моладзі", беручы гэта пад увагу, а так-жа маючы наўвеце ўсебаковае разьвіцьцё беларускае літаратуры ды належна ацаняючы вартасьць і патрэбу беларускае прозы, у мінулым годзе ў месяцы лютым абвесьціла конкурс на найлепшае апавяданьне прозай.

Апавяданьне празначанае на конкурс мусіла быць нідзе нядрукаваным і арыгінальным. Мусіла яно быць напісана прыгожай беларускай мовай, мець харошы стыль і ўсе артыстычныя асаблівасьці мастацкага твору. Тэмай яго магло быць сучаснае жыцьцё беларускае вёскі, інтэлігенцыі або вёскі і інтэлігенцыі разам. Нагародаў вызначана было тры,— невялікія і то кніжкамі, з увагі на беднату нашага выдавецтва.

Як і трэба было спадзявацца, у конкурсе брала ўдзел, здаецца, пераважна моладзь пачынаючая і хочучая працаваць на ніве беларускай літаратуры. Усіх апавяданьняў прыслана 17. Вось яны: 1. „Zaručyny Andreja" — Ihnala Maciejoŭskaha, 2. „Перад новым годам"—Уладзімера Біча, 3. „Ksiondz Izdebski" — Ihnala Maciejoŭskaha, 5. „Божая кара"—Бэрка-Руса, 5. „Мучаніца каханьня" — Гуляўскага, 6. „Русалкі — Ул. Бера, 7. «25 sakavika 1946 hodu ŭ Miensku» — W. D., 8. „Багатая Куцьця" — Дняпрова, 9. „Pierabiehčyk" — Dynamita, 10. „Сьвятам" — С. Шыпоўніка, 11. „Сіла гарэлкі"— Дзікое Лазы, 12. * * * — Івана Ключніка, 13. „На родным палетку" — Андрэя Чэмера, 14 „Ščaście Alenki" — Žalejki, 15. „Daroha" — Žalejki, 16-17. Два апавяданьні без назоваў Н. Назаркі.

Апавяданьні гэтыя разглядаў суд, у склад якога ўходзілі: Грам-ка М. Мілючанка, мгр. Я. Хвораст і грам. М. Пяцюкевіч. Меў ён многа і ня лёгкае працы, бо некаторыя апавяданьні былі даволі доўгія — па 30, 60 і 90 аркушоў канцэлярыйнае паперы, ды часта пісаныя ня выразна. Аканчальнае паседжаньне літаратурнага суду адбылося 20 і 22 студня 1936 г. і закончылася наступным пратаколам:

„Пратакол паседжаньня судзьдзяў Літаратурнага Конкурсу, ладжанага Рэдакцыйнай Калегіяй часапісу „Шлях Моладзі" на найлепшую новэлю (апавяданьне), дня 20 і 22 студня 1936 г., у складзе: грам. Марысі Мілючанкі, Яна Хвораста і Мар'яна Пяцюкевіча. Пастаноўлена: з агульнага ліку 17 (семнаццаці) апавяданьняў

і новэляк, прысланых на конкурс, Суд **прызнаў другую нагароду** Андрэю Чэмеру за апавяданьне п заг. „На родным палетку“. Вільня, дн. 22 І.1936 г. Сябры Суду: *(—) М. Мілючанка, (—) Я. Хвораст, (—) М. Пяцюкевіч“.*

Як бачым, нагарода прызнана толькі адна — Андрэю Чэмеру, у апавяданьні каторага, якое пачнём друкаваць у № 3 «Шл. Мол.» сёл. праяўляецца вялікі талент. На выражненьне заслугоўваюць апавяданьні Жалейкі, каторыя так-жа будзем друкаваць. Асобы гэтыя, на колькі нам ведама, у бел. літаратуры новыя А знача наш конкурс ня быў бязплодны.

Але конкурс ужо кончаны. Першы шаг дзеля разьвіцьця беларускае прозы, а перад усім дзеля заахвочаньня маладых бел. літаратараў у Зах. Беларусі пісаць прозай зроблены. Заслуга ў гэтым тых, што адклікнуліся на наш заклік і прыслалі свае творы, і Паважаных Судзьдзяў, якія былі ласкавы бязінтэрасоўна творы гэныя прачытаць, праступ'яваць, ацаніць і выдаць свой прысуд, за што шчыра ім дзякуем.

На заканчэньне трэба сказаць, што хоць конкурс „Шл. Моладзі“ і парушыў справу адсталасьпі ў нас літаратурнае творчасьці прозай, ды хоць ён ня быў бязплодным, то аднак на аснове пастановы Літ.-Конкурсовага Суду, а таксама на аснове жыцьцёвых спасьцярогаў ня можна сказаць, каб справа гэта была ўжо на добрай дарозе. Дык трэба далей думаць аб іншых і лепшых спосабах ажыўленьня працы ў гэтай галіне. На гэта павінна зьвярнуць увагу Літаратурна-Мастацкая Сэкцыя БІГіК і рэдакцыі беларускіх літаратурных часапісаў.

*Рэдакцыя „Шляху Моладзі“.*

# Vystaŭka abrazoŭ Piotry Sierhijeviča

Ad 26.XII.35 da 8.I.36 h. u Vilni adbyvałasia vystaŭka abrazoŭ Piotry Sierhijeviča. Małady naš mastak pakazaŭ usiamu kulturnamu śvietu m. Vilni sapraŭdnaje bahaćcie temaŭ i vysoki artyzm. U kruh mastackaj tvorčaści P. S—ča ŭvachodziać: partrety, pejzažy, kampazycyi i niažyvaja natura. Usiudy artysta prabuje svaich siłaŭ i ŭsiudy z pamysnym rezultatam.

P. Sierhijevič jość mastakom naskroś biełaruskim. Lubym jaho matyvam jość praca sielanina na poli, viaskovyja flirty dziaciukoŭ, narodnyja hulni, słovam — usio sialanskaje žyćcio. — Paśviačaje tak-ža naš mastak niamała ŭvahi i našaj minuŭščynie. Tut my bačym scenu paŭstancaŭ z 1863 h. na čale z słaŭnym našym dyktataram K. Kalinoŭskim i druhi abraz: vyprava na vajnu našych vojaŭ z kniaziem Usiasłavam.

Vilenskaje biełaruskaje hramadzianstva vielmi vysoka acaniła tvorčaść P. S—ča, bo pobač z vysokim artyzmam, u malunkach P. S—ča čuvać niešta rodnaje, biełaruskaje.

Polskaja presa adkliknułasia ab tvorčaści našaha mastaka vielmi prychilna, adnak niekatoryja časapisy, svaim zvyčajem, nie zdabylisia na biezstaronnaść i praŭdu i nie nazvali P. S—ča mastakom biełaruskim. Voś jak piša vilenskaje „Słowo" (№ 1 z dn. 1.I.36):

„P Sierhijevič — heta zdecydavany artysta „tutejšy", heta vybitny regjonalista. Cikavić jaho tolki Vilenskaja Ziamla, naš krajavid, naš lud. Starajecca jon učucca i pieražyvać jaho dolu j niadolu. I choć jon źviazany z Vilniaj, adnak jaho nia možna zaličyć da „Škoły Vilenskaj". Jon jość niezaležnym i jdzie svajej darohaj. Małady, pracuje šmat i biaz sumnivu maje pierad saboj śvietłuju budučyniu. Paščaśliŭ jamu Boža".

Voś-ža hetym vialikim mastakom — „wybitnym regjonalistam", jość naš mastak biełarus. Dyk niachaj žyvie j pracuje na słavu biełaruskaha narodu.

Vielmi pažadana było-b, kab biełaruskija mastaki: P. Sierhijevič, Čuryła, Sieŭruk, Drazdovič i inš. pastaralisia naładzić supolnuju vystaŭku svaich lepšych tvoraŭ. Było-b heta vielmi karysna i dla ich asabista i dla biełaruskaje spravy.

Dr. J. Malecki.

---

# Kot i ŭmałotnaść čyrvonaj kaniušyny

Nichto napeŭna nie pavieryć, kali skažam, što ŭmałotnaść kaniušyny zaležyć ad kolkaści katoŭ u danaj vakolicy. Bo zdavałasia-b, što-ž moža łučyć kata z kaniušynaj? Jon-ža joju nia kormicca.

A tymčasam tak jość. Ab hetym nam kažuć vučonyja pryrodniki, a pierad usim Darwin*), katory pieršy źviarnuŭ na heta ŭvahu.

Napeŭna mnoha chto z čytačoŭ užo viedaje, što kab raślina dała ziernie, jejnaja kvietka musić apłodnicca: pyłok z adnoj kvietki musić dastacca ŭ druhuju. Kvietki, u katoryja pyłok nie papaŭ, nie dajuć ziarniat, heta t. zv. „pustaćviet".

Ale kvietki niaruchomyja. Jany sami nia mohuć pieranosić pyłok, a karystajucca pry hetym vietram, vadoj, avadniami. Tyja raśliny, jakim pyłok z kvietki ŭ kvietku pieranosić viecier — zavucca vietra-pylnymi, kali heta robić vada — dyk buduć heta — vadapylnyja i ŭ kancy, kali heta robiać avadni, dyk takija raśliny zaviom — avadniapylnymi.

Da avadniapylnych raślin naležyć i čyrvonaja kaniušyna.

Avadniapylnyja raśliny zvyčajna rożniacca ad inšych strojnymi kalarovymi kvietkami, pacham i sałodkim sokam u kvietcy — nektaram. Avadni, ssučy nektar, mimavoii nabirajuć na

*) Darwin Karol (1809—1882) — vialiki, hienijalny anhielski pryrodnik, tvarec teoryi pastupovaha raźvićcia arhanizmaŭ (teoryi evolucyi), a taksama teoryi naturalnaha adboru (baraćba za žyćcio ŭ pryrodzie).

svajo kasmataje cieła pyłok i, lotajučy ad kvietki da kvietki, pieranosiać jaho, i hetym samym apładniajuć raślinu.

Strojny koler kvietki patrebny na toje, kab avadni mahli jaje zdaloku zaŭvažyć zrokam, pach — kab mahli pačuć niucham, a smačnym sałodkim nektaram rašliny „płaciać“ avadniom za ichnuju małuju, ale vielmi važnuju dla rašliny ŭsłuhu.

I voś pyłok čyrvonaj kaniušyny z kvietki na kvietku pieranosiać čmiali, bo tolki ŭ ich jošć natolki doŭhija łyčyki, jakimi jany mohuć dastać nektar z hłybokaj kvietki. Pčała, naprykład, nektaru z čyrvonaj kaniušyny nia źbiraje, bo nia moža jaho dastać svaim karotkim łyčykam.

Dastajučy nektar, taki sabie „žoŭtapuzy“ čmiel datykajecca svaim bruškam da pyłka, jaki lohka prylipaje da jaho kasmataha cieła. Kali dalej jon siadaje na druhuju kvietku kaniušyny i starajecca dabracca da nektaru, dyk razam mimavoli ściraje pryniesieny pyłok, a nabiraje z hetaj kvietki novy.

Tak apłodnienyja kvietki čyrvonaj kaniušyny dajuć zierni.

Raz Darwin, chočačy pierakanacca, ci sapraŭdy čmiali pamahajuć pry apładnieńni kaniušyny, zakryŭ ad čmialoŭ sto hałovak čyrvonaj kaniušyny, a stolki-ž sama pakinuŭ dastupnymi čmialam. I što pakazałasia?

Voś hetyja apošnija vydali 2,700 ziornaŭ, a zakrytyja ad čmialoŭ — nie dali anivodnaha.

Ale pry čym tut katy? — napeŭna zapytajeciesia.

A voś pry čym: vorahami čmialoŭ źjaŭlajucca polnyja myšy, jakija niščać ich hniozdy, a vorahi myšej katy.

Značycca, kali ŭ vakolicy budzie mnoha katoŭ, jany buduć niščyć myšej. Čmiali tady buduć mahčy lepiej razmnožycca, lepiej zapylać kaniušynu i kaniušyna daść dobry ŭmałot.

Kali ž katoŭ nia budzie, myšy razmnožacca, mocna vyniščać čmialoŭ,—tady małaja kolkaść čmialoŭ słaba zapylić kaniušynu i kaniušyna daść słaby ŭmałot.

U žyćci heta trudna zaciemić, bo aprača myšej, čmiali majuć mnoha i inšych vorahaŭ, a taksama myšy majuć svaich. Ale ŭsio-ž taki heta jošć cikavy prykład, jak baraćba za žyćcio ŭ pryrodzie stvaraje vielmi zabłutanyja adnosiny pamiž raślinami i źviarami.

M. Karalenka.

## Jubilej litoŭskaha časapisu „Jaunimo Draugas“

Niadaŭna časapis litoŭskaje moładzi „Jaunimo Draugas“, uračysta śviatkavaŭ 10-cilećcie svajho isnavańnia. Z hetaj pryčyny byŭ vydany hetaha časapisu pavialičany jubilejny numar. Z nahody henaha jubileju žadajemo Redakcyi „Jaunimo Draugas“ płodnaj pracy na budučyniu, a adnačasna vyražajem pažadańnie, kab litoŭskaja pracoŭnaja moładź i biełaruskaja naviazali pamiž saboj łučnaść, tak jak heta zrabiła ŭžo biełaruskaja i litoŭskaja moładź studenckaja.

## Koń i sabaka

*(Bajka pavodle Kryłova).*

Raz zastanoŭleny ja byŭ havorkaju takoju:
—„Čamu hadzinki nia maju ja spakoju?
La śvirnaŭ tut jak dzień, tak noč na łancuhu
Dabytak haspadarski ścierahu". —
Tak kryŭdziŭsia kaniu nadvorny pios,
Što, prosta, ŭ prykład vierna słužbu nios.
Sabacy koń skazaŭ na skarhu tuju:
—„Ja cely hod z haspadarom pracuju
Na poli, ŭ lesie, na łuhu —
Tamu i ty tut śpiš na łancuhu.
Niachaj-ža tolki my pakiniem pracavać
I ty nia budzieš mieć čaho papilnavać".

29.XII.1935. **J. Vilkoŭščyk.**

---

## U Kućciavy viečar

Kruhom było ciomna i strašna. Šalony vichor paryvaŭ tumany śniežnaha pyłu, kruciŭsia, jenčyŭ i dzieś daloka hinuŭ.

Pa zaviejenaj hurbami darozie bryŭ małady čałaviek, uvieś bieły ad śniehu i marozu. Tvar jaho byŭ chudy i bieły, a zapaŭšyja hłybaka vočy sumna hladzieli napierad. Bušujučy vichor i hurby śniehu abryvali jaho z rešty sił, jon adnak jšoŭ i śpiašaŭsia, choć sam nia viedaŭ dzie. Voś siańnia śviataja Kućcia, usie ciešacca žyćciom, zychodziacca ŭ rodnuju chatku i... ščaśliva i dobra im. A jon?.. Baćku ŭžo daŭno zabrała ziamielka, a matki, — nie pamiataje navat. Jon adzin-adzinoki, jak kamień prydarožny. Ciapier, adciarpieŭšy za spravu svajej Baćkaŭščyny dva hady viaźnicy, jon vyjšaŭ na svabodu i jdzie, ale kudy?...

Ale voś dzieś daloka milhnuŭ ahońčyk, — kab-ža chutčej dajści da jaho. Vieryŭ, što tam jość dobryja ludzi, što pryhornuć jaho ŭ hety śviaty viečar. Siły jaho adnak pakidali. Prajšoŭšy jšče paru honiaŭ jon zusim asłab i sieŭ u śnieh kala krušni, kab addychnuć. Było jamu zacišna i pryjemna, a vočy jahonyja pačaŭ maryć son. Zdavałasia jamu, što byŭ u ciopłaj chatcy, siadzieŭ miž dobrych ludziej pry śviatoj Kućci, čuŭ rodnyja biełaruskija pieśni i byŭ taki ščaślivy, jak nikoli. Potym zdajecca zrabiłasia ciomna, a imhła jakajaś usio prad im zakryła...

— — — — — — — — — — — — — — —

Na zaŭtra ranicaj ludzi jdučy z kaścioła znajšli la krušni ŭ hurbie śniehu trup maładoha biazimiennaha čałavieka. Na tvary jahonym malavałasia ščaście...

A vichor uściaž jenčyŭ i hulaŭ pa poli...

**Jurka Bahun.**

## Z KRAJU

— 1.I.1936 h. hurtok Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury ŭ **Budsłavie**, Vialejskaha pav., ładziŭ lekcyju na temu: „Značeńnie litaratury ŭ žyćci adzinki i hramadzianstva", jakuju pračytaŭ hram. R. Šyrma. Nia hledziačy na roznyja pieraškody i niavyhody, prysutnych na lekcyi, pieravažna moładzi, było bolš 50 asob i ŭsie jany byli vielmi zadavoleny. Škada adno, što mała było skazana ab biełaruskaj litaratury.

*B. Biełarus.*

— **Małaja Alšanka**, Hornickaj voł., Horadzienskaha pav. 5.I. sioleta žyćcio našaje staronki ažyviła lekcyja biełaruskaha studenta vilenskaha universytetu, a našaha susieda V. Papucevіča. Čytaŭ jon svaju lekcyju ŭ našaj vioscy ŭ viaskovaj chacie na temu „Samaadukacyja šlacham da rodnaj kultury". Ludziej było mnoha i navat z dalokich viosak. Z lekcyi ŭsie mnoha skarystali i byli vielmi zadavoleny, za vyniatkam chiba palicyi, jakaja revidavała hram. V. Papucevіča, i vučyciela palaka, katoraha prysutnaść bieł. studenta nadta mocna niepakoiła.

*Jazep Bojdacki.*

— **Žodziški**, Vialejskaha pav. Na druhi dzień katalickich Kalad hurtok BIHiK u v. Rasła ładziŭ biełaruskaje pradstaŭleńnie.—31.XII.35 h. u pamieškańni Žodzišnaha hurtka Bieł. Instytutu Hasp. i Kultury sabrałasia kala 60 asob z Žodzišak, Panižan, Ajćvił, Syčyniat, Dziviatnioŭ, Chvałkaŭ, Ašmianca, Hajavoha-Hila, Rasła i inš. i chacieli spatkać supolna Novy 1936 Hod. Palicyja hetaha adnak nie dazvoliła zrabić, žadajučy dazvołu ad pavietavaha starasty, jakoha arhanizatary spatkańnia Novaha Hodu nia mieli.

*K—č.*

— **Чапялева**, Слонімскага пав. На другі дзень праваслаўных Каляд моладзь наша ладзіла беларускае прадстаўленьне. Ставілі „На полацкім замчышчы". Людзей было вельмі многа. Прадстаўленьне ўдалося добра. У нас ужо ставілі бадай усе беларускія п'есы. Моладзь наша думае сарганізаваць драматычны гурток з мэтаю перайсьці пасьля на беларускі аб'яздны тэатр.

*Воўк.*

— **Мігаўка** каля Радашкавіч, Маладэчанскага пав. За прыкладам мінулых гадоў і пры помачы нашага старога беларускага дзеяча б. сэнатара А. Уласава, на Каляды была наладжана ў нас беларуская вечарына. Ставілі дзьве п'есы: „Боты" і „Пярэстая Красуля". Пасьля прадстаўленьня былі да раніцы скокі. Зацікаўленьне вечарынай было вялікае. Добра было-б, каб моладзь наша пастаралася сарганізаваць гурток Бел. Інстытуту Гасп. і Культуры.

*Тодар.*

— Жыхары **в. Шутовічы**, Ашмянскага пав., маладыя хлопцы Франук, Пётра, Юзюк і Міхась Шутовічы і Уладыслаў Шульжыцкі перад каталіцкімі Калядамі пайшлі ў За-

лесьсе (станцыя Маладэчанскага пав.) на вечарыну. Паліцыя іх там арыштавала і закуўшы ў ланцужкі рукі адправіла ў Маладэчна на дапрос. Пасьля дапросу ўсіх аднак звольніла. У гэты-ж час, калі яны былі арыштаваны, адбываліся рэвізіі ў іх хатах, але нічога „кампрамітуючага" ня было знойдзена.

1.I.36 г. у нашай вёсцы рэдактар „Калосься" мгр. Я. Шутовіч прачытаў рэфэрат на тэму: „Правы нацыянальных меншасьцяў у Польшчы". *Ш.*

— **Пастаўшчына.** Сяньня беларуская моладзь знаходзіцца ў выняткова цяжкіх абставінах. Палепшаньне лёсу беларускай моладзі, гэта заданьне самой моладзі, якая мусіць супольнымі сіламі да гэтага йсьці. Перад усім трэба старацца, каб мець свае беларускія школы ды адчыняць бібліятэкі і народныя дамы, дзе моладзь магла-б вучыцца і вясьці культурна-асьветную працу. Патрэбны нам так жа вячэрнія курсы ў беларускай мове. Дамагацца трэба так-жа працы для безпрацоўнай беларускай моладзі.

Беларуская інтэлігэнцыя павінна стаць на чале беларускае моладзі і памагчы ёй змагацца за палепшаньне свайго лёсу. Пры гэтым трэба, каб моладзь пашырала сваю родную беларускую прэсу, кнігі, календары. Трэба зьбіраць беларускія песьні, перапісваць іх і прысылаць матэры'ял у свае газэты і часапісы *Рыгор Скіба.*

---

## SUDY

— 13.I. sioleta ŭ Varšavie zakončyŭsia vialiki palityčny praces maładych ukraincaŭ, abvinavačanych za ŭčaście ŭ zabojstvie min. B. Pierackaha. Praces hety pačaŭsia 18.XI.35. Vynik: sud vydaŭ prysud, jakim zasudziŭ, — S. Banderu, M. Łebeda i J. Kapryńca na karu śmierci, zamianiajučy jaje pavodle amnestyi na viečnuju katarhu; M. Kłymyšyna i B. Pidhajnaha na viečnuju katarhu; D. Hnatkivskuju na 15 h. katarhi; A. Kačmarskaha, R. Myhala i I. Maluca pa 12 hadoŭ katarhi; K. Zaryckuju na 8 h. katarhi; J. Čornija i J. Raka pa 7 h. katarhi. Paśla prysudu Bandera i Łebed kryknuli štoś paukrainsku, za što zaraz-ža ich vykinuli z zali. — Abarona padaje apelacyju.

— Ad 8 da 13 studzienia sioleta ŭ Vilni adbyvaŭsia praces „levicy akademickaj", h. zn. studentaŭ i absalventaŭ vilenskaha universytetu, abvinavačanych hałoŭnym čynam u kamunizmie i za toje, što byccam jany chacieli Zachodniuju Biełaruś dałučyć da Savietaŭ. Na łavie abvinavačanych zasiadała troch biełarusaŭ: M. Ščakała, A. Smal i M. Urbanovič, litoviec J. K. Drutto, žyd B. Livšyc i palaki: S. Jendrychoŭski, M. Dzievickaja, K. Petrusevič, I. Dzievickaja, V. Okołovič i J. Štachelski. Sud razhledziŭšy spravu pryznaŭ vinavatymi i zasudziŭ: J. K. Drutto na 5 hadoŭ vastrohu, źmianšajučy hetu karu pavodle amnestyi da 2 h. i 6 miesiacaŭ, A. Smala na 3 h. źmianšajučy na 1 h. i 6 m-caŭ i B. Livšyca tak-ža na 3 h. i źmianšajučy na 1h. i 6m. Ad hetaha prysudu padali apelacyju i abarona i prakuror. Reštu sud uniaviňniŭ. Apróč taho, zasudžanyja pazbaŭleny na niekalki hod pravoŭ.

Charakterna zaznačyć, što praces „akademickaj levicy" vyjaviŭ siarod polskaje radykalnaje moładzi nastroi, prychilnyja da spravy adradžeńnia biełaruskaha narodu.

## Z VYDAVIECKAJ NIVY

U hetym numary „Šlachu Moładzi“ pastarajemsia, choć koratka, painfarmavać čytačoŭ ab biełaruskich knižkach, jakija vyjšli z druku ŭ 1935 h. i ab katorych dahetul nia mieli my mahčymaści ničoha napisać.

*A. Stepovič* — **Za Baćkaŭščynu.** Spieŭnik. Pieśni pracy i zmahańnia. Vyd. Bieł. Instytutu Hasp. i Kultury. Litaraturna-Mastackaja Sekcyja. Vilnia 1935. Bač. 24 z padabiznaj aŭtora. Farmat 8°. Cana 75 hr.

Źmieščana ŭ im 15 roznych biełaruskich, pieravažna patryjotyčnaha źmiestu, pieśniaŭ. Melodyi ich lohkija i prostyja, słovy pryhožyja. Śpieŭnik hety źjaŭlajecca pieršym zbornikam pieśniaŭ sabranych i ŭłožanych viedamym biełaruskim kultur. pracaŭnikom i rehientam A. Stepovičam, jaki pradčasna, u kancy 1934 h., rastaŭsia z hetym śvietam. Vonkavy vyhlad śpieŭnika pryhožy. Pry kancy śpieŭnika padany sposaby karystańnia im.

*V. A.* — **Kazka ab rybaku i rybcy.** Vyd. St Hlakoŭskaha i J. Najdziuka. Vilnia 1936. Farm. 16°. Bač. 29 z mnohimi i pryhožymi ilustracyjami. Cana 25 hr.

Kazka heta dahetul pieravažna była ŭvažana za tvor słaŭnaha rasiejskaha paeta Puškina. U sapraŭdnaści jość heta narodnaja kazka šyroka viedamaja ŭ roznych krajoch, z małymi tolki miascovymi roźnicami. Puškinaŭskaja „Kazka ab rybaku i rybcy“, a tak-ža heta-ž kazka V. A., jak dakazvajuć znaŭcy biełaruskaje narodnaje tvorčaści, asnavany na biełaruskim varjancie. Źmiest kazki cikavy, pavučalny i śmiešny. Napisana lohkim i prościeńkim vieršam. Nadajecca asabliva dla moładzi.

*Wincuk Adwažny* — **Hanuliny kłapoty**. Vyd. „Bieł. Krynicy“. Wilnia 1935. Bač. 63. Farm. 16°. Cana 50 hr.

«Hanuliny kłapoty» — heta druhoje i pašyranaje vydańnie knižycy hetaha-ž autora „Jak Hanula źbirałasia ŭ Arhientynu“. Apisany ŭ joj vieršam zachady Hanuli pry zdabyvańni metryki, pašpartu i inšych dakumantaŭ, a tak-ža inšyja padarožnyja „kłopaty“. Čytajučy hetu knižku ad śmiechu trudna ŭstrymacca i škada dziela hetaha, što zakančeńnie jaje trahičnaje.

*Бажэнаў* — **Шустрая бабулька.** Пераклад з расейскага В. Г. Выд. М. Шчастнага. Камэдыя ў 1 акце. Вільня 1935. Бач. 32. Фарм. 16°. Цана 40 гр.—П'еска гэта мала вартасная. Прадстаўлена ў ёй старая бабулька, каторая хоча замуж за старога і глухога дохтара, і яе дачушка, каторая хоча замуж і рамансуе з сваім вучыцелям, сынам таго ж дохтара. Канчыцца ўсё тым, што дачка з вучыцелям ашуківаюць бабульку і дастаюць дазвол на жаніцьбу. Пераклад кепскі.

**„Цешча ў дом — усё ўверх дном“.** Камэдыя ў 1 дзеі. З расейскае мовы пераклаў М. Ш. Тэатральная кніжніца № 1. Вільня 1935. Бач. 28. Фармат 16°. Цана 50 гр.

У камэдыі гэтай прадстаўлена жыцьцё маладой мяшчанскай сям'і і хітрыкі цешчы, каторая вучыла дачку, як мужа ашуківаць, а так-жа спосабы змаганьня з такіміцешчамі. П'еска надаецца на вясковую сцэну.

Я—к.

## CHRONIKA

### Z biełaruskaha žyćcia

**Vacłaŭ Łastoŭski rastralany?** „Kur. Wil." z dn. 6.I.36 padaŭ viestku, što ŭ SSSR b. premjer uradu Biełaruskaj Narodnaj Respubliki, aŭtor «Гісторыі Беларускай (Крыўскай) Кнігі» i inš. Vacłaŭ Łastoŭski, jakoha balšaviki za biełaruskuju nacyjanalnuju pracu vyhnali z Miensku i pas alili ŭ Sarataŭ nad Vołhaj, probavaŭ z žonkaj adtul uciačy; ale jamu heta nie ŭdałosia, bo kala Adesy balšaviki jaho złavili i rastralali. Dahetul Saviety viestki henaje nie zapiarečyli, a znača jana praŭdzivaja. Śviedčyć jana ab tym, jak sapraŭdy balšaviki adnosiacca da biełaruskich dziejačoŭ i kulturnych pracaŭnikoŭ niekamunistaŭ u SSSR. Sumnaja i balučaja heta viestka pavinna być pieraściarohaj dla ŭsich tych, chto biaskrytyčna zvaročvaje svaje vočy na kamunistyčny ŭschod.

**Zabarona schodu Rady BChD i lekcyi.** 19.I.36 ŭ Vilni (Zavalnaja 1) mieŭsia adbycca schod Rady BChD. P erad pačatkam adnak schodu ŭ zalu pryjšli: kamisar mundurovaj palicyi 3 kamisaryjatu, aspirant palicyi tajnaj, staršy „pšodoŭnik", dvoch tajnych palicyjantaŭ, staršy „posteruukovy" i zvyčajny palicyjant, spraŭdzili ŭ usich prysutnych asabistyja dakumanty i zajavili, što schod „raźviazvajuć" z uvahi na hramadzkuju biaśpiečnaść. Na hety ž samy dzień Vil. Haradzkoje Starastva nie dało dazvołu na lekcyju Ks. V. Hadleŭskaha „Pačatki historyi Biełaruśi", — jakuju ładziŭ u svaim pamieškanni Vilenski Addzieł Bieł. Instytutu Haspadarki Kultury.

**Kanfiskaty.** U kancy m-ca studzienia sioleta vil. administracyjnyja ŭłady skanfiskavali № № 3 i 5 „Biełaruskaj Krynicy", № 1(16) „Новага Шляху" i № 1(2) „Нашай Волі".

**Pasiedžańni ŭ spravie biełaruskaha škoInictva.** 22.I.36 adbyłosia pasiedžańnie Prezydyjumu Bieł. Nac. Kamitetu ŭ Vilni, na jakim razhladana była sprava bieł. školnictva ŭ Zach. Biełarusi i pastanoŭlena zaklikać bieł. kulturnyja arhanizacyi i ŭsio bieł. hramadzianstva padavać školnym uładam deklaracyi, damahajučysia bieł. škoł. U kancy m-ca studnia adbyłosia pasiedžańnie Centralnaha Uradu Bieł. Instytutu Hasp. i Kultury, na jakim taksama była abhavorvana sprava biełaruskaha školnictva i pastanoŭlena ŭ sioletnim 1936 h. pravieści narodny plebiscyt za rodnuju biełaruskuju škołu, h. zn. praviaści akcyju padavańnia školnym uładam deklaracyi z damahańniem bieł. škoły.

**Pamiatnik na mahiłu Ciotki.** U № 12 „Šl. Mol." za 1935 h. była apisana mahiłka bieł. paetki revalucyjanerki Ciotki, ad śmerci jakoj sioleta minaje 20 hadoŭ. Pry hetaj nahodzie była parušana sprava pamiatnika na jaje mahiłku ŭ Starym Dvare, Ščučynskaha pav. Voś-ža ŭ studni miesiacy sioleta adviedała našu redakcyju siastra Ciotki hram-ka Sapoćcycha i paviedamiła, što jana ŭžo zakazała pamiatnik na mahiłku Ciotki i što

budzie jon hatovy sioleta viasnoj. Ab časie adkryćcia pamiatnika my pastarajemsia paviedamić paśla.

**Abnova BChD.** 26.I.36 ŭ Vilni adbyŭsia schod Rady Bieł. Chryścijanskaj Demakracyi, na jakim pastanoŭlena Biełaruskuju Chryśc. Demokracyju (BChD) abnavić — źmianić jaje nazoŭ na „Biełaruskaje Narodnaje Aajednańnie" ŭ skaročańni BNA, pryniać biaz źmien prajekt prahramy BNA nadrukavany ŭ „Bieł. Krynicy" №4 z 1936 h., a tak-ža źmianić statut, jaki paśla papravak źmieščany ŭ № 6 „B. Kr." U vykanaŭčyja orhany BNA vybrany: u Centralny Kamitet BNA — dr. St. Hrynkievič, inž. A. Klimovič, red. J. Paźniak, dr. J. Malecki, M. Dvarecki, red. J. Najdziuk, mgr. J. Šutovič, B. Hapanovič-Babaryka i J. Čarnecki, u zastupniki — J. Jarmałkovič i M. Kazarovič. U Revizyjnuju Kamisiju: A. Łukašević, A. Šutovič i A. Dasiukievič dy hram-ka M. Tatarynovičanka jak zastupnica. U Prezydyjum Centr. K-tu vybrany nastupnyja asoby: red. J. Paźniak—staršynia, dr. St. Hrynkievič i M. Dvarecki — vicestaršyni, inž. A. Klimovič — skarbnik i red. J. Najdziuk—sekretar.

Schod Rady BNA, katorym kiravaŭ jak staršynia dr. St. Hrynkievič, a pratakoł pisaŭ J. Najdziuk, pryniaŭ pastanovu, katoraj nakazvaje C.K-tu BNA viaści dalej niezaležnickuju palityku BChD, pilna sačyć za žyćciom biełaruskaha narodu na cełym jahonym etnohrafičnym abšary, baroniačy pravoŭ i reahujučy adpaviedna na jahonyja kryŭdy.

Voś-ža, jak bačym, najstarejšaja sučasnaja bieł. palityčnaja arhanizacyja ŭ Zach. Biełarusi BChD pieratvaryłasia ŭ bolš radykalnaje Biełaruskaje Narodnaje Abjednańnie — BNA.

**Z dziejnaści Vilenskaha Addziełu BIHiK.** Urad Vilenskaha Addziełu BIHiK apošnim časam asabliva pačaŭ prajaŭlać svaju enerhičnuju dziejnaść. I tak 31.XII.35 ładziŭ jon u svaim pamieškańni spatkańnie Novaha 1936 Hodu. 26.I.36 tam-ža adbyłasia lekcyja Ks. V. Hadleŭskaha na temu: „Pačatki historyi Biełarusi". Paśla lekcyi studenty St. Miadoŭski, A. Dasiukievič i dr. J. Malecki deklamavali tvory biełaruskich paetaŭ, a chor BIHiK vykanaŭ niekalki biełaruskich pieśniaŭ. Ludziej było poŭnaja zala, pakoj susiedni kała zali, u jakim mieścicca čytalnia Instytutu i pradpakoj, dzie badaj ničoha z zali nia było čuvać.—2.II. siol. tam-ža adbyłasia lekcyja Ks. V. Hadleŭski na temu: „Skul uziaŭsia Biełaruski Narod", a dr. Malecki havaryŭ ab „Satyry ŭ tvorčaści Fr. Bahuševiča". Ludziej na hetych lekcyjach było stolki sama, jak i 26.I.36. Uražańni z lekcyjaŭ najlepšyja. — Žychary Vilni dahetul u bolšaści pasyŭnyja da spravy biełaruskaha adradžeńnia, apošnim časam prajaŭlajuć da hetaj spravy asablivaje zacikaŭleńnie.

**Pamožam niezamožnym bieł. studentam i vučniam.** Matarjalnaje pałažeńnie bolšaści bieł. vučniaŭ i studentaŭ vielmi ciažkoje. Mnoha z ich prymušana pakidać navuku. Voś ža paŭstaje patreba sarhanizavańnia šyrejšaje pomačy. Jość užo

Kamisija Pomačy Niezamožnym Studentam, jakaja ŭ mieru mahčymaści starajecca vykonvać svajo zadańnie, dziejučy pieravažna ŭ Vilni. Dziela hetaha treba było-b padumać, kab sarhanizavać miesiac pomačy biełaruskim vučniam i studentam i rasšyryć akcyju żbirańnia dapamohi na ŭsiu Zach. Biełaruś.

**Ahulny Schod Bieł. Navukovaha T-va.** 19.I. siol. adbyŭsia ŭ Vilni ahulny hadavy schod Bieł. Navukovaha T-va, na jakim, paśla spravazdačy ŭradu T-va z dziejnaści za 1935 h., byŭ vybrany novy ŭrad u składzie: adv. M. Škialonak, Uł. Samojło, dr. J. Stankievič, V. Hryškievič, A. Łuckievič i inš.

**Referaty ab biełaruskaj litaratury dla polskich litaratarań.** 15.I.36 u Vilni. u Sajuzie Polskich Litaratarań na h. zv. „Środzie Literackiej" hram. Łuckievič i mgr. St. Stankievič čytali papolsku referaty ab biełaruskaj litaratury, z mętaj abznajamleńnia polskich litaratarań z biełaruskaj litaraturaj Byli takža čytany niekatoryja tvory bieł. paetań. Treba skazać, što lektary svajo zadańnie vykanali davoli dobra. Zacikaŭleńnie-ž z boku polskaha, jak nia dziŭna, było vielmi małoje.

**Jołačka.** 12.I.36 dziakujučy starańniam redakcyi dziciačaha časapisu „Praleski" i hrupy maładych kiełaruskich baćkoŭ u zali Bieł. Instytutu Hasp. i Kultury ŭ Vilni, była sarhanizavana jołačka dla biełaruskich dzietak. U časie hetaje miłaje imprezy vystupaŭ chor BIHiK i byli razdany dzieciam padarki ŭ postaci bieł. knižak i roznych prysmakaŭ. Pažadana, kab takija i padobnyja imprezy dla biał. dziaciej byli ładžany čaściej i nia tolki ŭ Vilni, ale i na pravincyi.

## U BIEŁ. SKAŬTAŬ

— 2.II. sioleta ŭ zali Vilenskaj Biełaruskaj Himnazii adbyŭsia arhanizacyjny schod Hurtka Pryjacielaŭ Biełaruskich Skaŭtaŭ, na jakim prysutnyja pastanavili hurtok vyšejnazvany załažyć i vybrali vykanaŭčyja jaho orhany. U skład uradu hurtka vybrany: a. dr. St. Hlakoŭski — staršynia, Uł. Kazłoŭski — sekretar i Č. Najdziuk — skarbnik. U Revizyjnuju Kamisiju ŭvajšli hram. hram.: Uł. Mankievič, K. Kruk i T. Viernikoŭski.

## U BIEŁ. STUDENTAŬ

— 1.II. sioleta ŭ Biełaruskim Studenckim Sajuzie ŭ Vilni adbyŭsia dyskusyjny viečar nad prahramaj Biełaruskaha Narodnaha Abjednańnia.

— 8.II. siol. u zali litoŭskaje himnazi im. Vitaŭta Vialikaha adbudziecca čarhovaja VII-ja hadavaja viečaryna Biełaruskaha, Ukrainskaha i Litoŭskaha Studenckich Sajuzaŭ u Vilni.

*Рэдаıуе Калеııя.*

Выдаюць: Я. Багдановіч і А. Шутовіч. Рэдактар Я. Найдзюк

## USIAČYNA

— 3-ha studzienia siol. u Polščy abvieščana doŭha čakanaja amnestyja, pavodle jakoj zvolniena kala 30,000 asob.

— Chemičny razbor pavietra pakazvaje, što składajecca jon z 20,7 prac. tlonu, 78,3 prac. azotu i siarednie kala 1 prac. vodnaj pary. Aproč hetaha jość u pavietry krychu vuhlavoha kvasu, ozonu, amonjaku, sierkavaha kvasu, a časami oksydatu vuhla. U atmosferyčnym azocie možna znajści 1 prac. argonu i ślady kryptonu, monu dy metargonu.

— 17 studzienia sioleta, pražyŭšy 70 hadoŭ, pamior słaŭny anhielski piśmieńnik Rudyard Kipling, jaki byŭ vialikim znatakom psychiki źviaroŭ. Litaraturnaja tvorčaść Kipling'a viedama ŭsiamu kulturnamu śvietu i za jaje atrymaŭ jon u 1907 h. naharodu Nobla. — 21 h. m. pamior anhielski karol Jury V. Karaleŭski tron Anhlii zaniaŭ najstarejšy syn niabožčyka, kniaź Walii, jak Edvard 8-my.

— U kancy studzienia sioleta ŭrad Lavala ŭ Francyi padaŭsia ŭ adstaŭku. Novy ŭrad sarhanizavaŭ z pradstaŭnikoŭ levych partyjaŭ i staŭ na jaho čało Sarraut (čytaj S a r r o).

—Vajna italijanska-abisynskaja dalej raźvivajecca. Chto ŭ joj pieramoža, trudna skazać. A pakulšto bjuć i italijancy abisyncaŭ i abisyncy italijancaŭ.

— Z pryčyny 21 Mižnarodnaha Dnia Kamunistyčnaje Moładzi ŭ hazetach pajavilisia danyja ab ličbovym stanie sekcyjaŭ kamunistyčnych arhanizacyjaŭ moładzi na ŭsim śviecie. Pavodle hetych viestak, kam. sekcyja moładzi Arhientyny maje 5.000 siabroŭ, Anhlii — 2.000, Belhii — 800, Švecyi — 5,701, Zł. Št. Ameryki — 9,000, Francyi — 17,000, Narvehii — 2,000, Meksyku — 650, Kanady — 2,500, Holandyi — 1,300, Uruhvaju — 250, Danii — 900, Švajcaryi — 310, Islandzii — 500, Kitaju (častki pad upłyvam savietaŭ) — 100,000. — Razam 152,111 siabroŭ. Sekcyi hetyja isnujuć jaŭna. Aproč taho jość jašče sekcyi tajnyja: u Čechasłavacyi z 12,400 siabrami, u Aŭstryi — 3,500, u Polščy — 13,000, u Hišpanii — 12,000, u Kubie — 3,050. Razam 43,250 siabroŭ. Jak vidać z hetaha, tajnyja sekcyi kamunistyčnaje moładzi najbolš majuć siabroŭ u Polščy...

## PAŠTOVAJA SKRYNKA

V. K r u p i e ń č y k u: Piśmo atrymali knižki i časapis vysyłajem.

D y n a m i t u: Materyjały słabavatyja i da druku nie padchodziać. Piara adnak nia kidajcie, a pracujučy nad saboj pišecie, bo majecie zdolnaść u hetym kirunku.

K a t u Š.: Za viestki dziakujem. Časapis i knižki vysyłajem.

P. R a m — č u k u: Za pryvitańnie ščyraja padziaka. Z vieršaŭ, na žal, nivodnaha nia možam nadrukavać, bo słabyja. Kalendar i premiju vyšlem pa atrymańniu hrošaj.

J u r c y B o h u n u: Z mataryjałaŭ karystajem i čakajem na składku.

J. P i t u š c y: Za hrošy ščyraja padziaka. Prośbu spoŭnili. Karespandencyju nadrukujem u nastupnym numary.

M. Z a c h a r k i e v i č u: Za miłaje i cennaje piśmo ščyraja padziaka. Mataryjalnaje pomačy nijakaje dać nia možam, bo sami biednyja.

H a r a v o m u: Za cennaje piśmo, viestku i karespandencyju ščyraja padziaka. Drukavać budziem u nastupnym numary. Apišycie nam pradstaŭleńnie.

Ул. С і ў ц ы: За пісьмо і вершы падзяка, адзін з іх, як бачыце, друкуем. Культае ў Вас крыху чысьціня мовы, — зьвярніце на гэта ўвагу. Вы маеце здольнасьць да пяра, дык пішэце і нас не забывайце.

М. К а р — в а ю: Просьбу спаўняем. Пастарайцеся залажыць у сябе гурток Бел. Інстытуту Гасп. і Культ., статут і інструкцыю якога высылаем.

П.. З а в е і: Адзін Ваш верш паправіўшы, як бачыце, друкуем. За прывітаньне і карэспандэнцыю падзяка. Пішэце, чытайце, працуйце над сабой і зварочвайце ўвагу на нашы папраўкі. Статут і інструкцыю БІГіК высылаем.

К. Л ю ц к е в і ч у: Просьбу спаўняем. Дагэтуль „Шл. Мол." высылалі мы Вам акуратна і далей так будзем рабіць, дык дамагайцеся на пошце. Калі-ж далей ня будзеце атрымліваць, прышліце нам афіцыяльную рэклямацыю, а мы гэту справу парушым ў Дырэкцыі Паштовай.

М а х э д у, В. Б у р ш т а л ю, Я. К а л і н е і Гр. З а й к у: Вершы Вашы слабыя. Радзім пробаваць пісаць прозай, а перад гэтым добра пазнаёміцца з бел. граматыкай і правапісам, ды чытаць як найбольш беларускіх кніжак.

Pierasyłka apłačana ryčałtam.

## KUTOK RAZRYVAK

Pad redakcyjaj U.Paŭlukoŭskaha

### Logogryf № 1 (*Ułažyŭ U. P.*).

Z K—ja kruču,
Z T—ŭsio našu,
Z H—dyk lažu.

### Anahrama № 1 (*Ułažyŭ U. P.*).

Jak prosta, —ja źviarkoŭ łaŭlu,
I tolki ŭ chacie žyć lublu;
Naadvarot-ža — u humnie
Ziarniaty kociacca pa mnie.

### Z a d a č y:

1. Jak zrabić niabačanym cukar?
2. Jak pazirajučy napierad, ubačyć, što robicca zzadu?
3. Jak aznačyć piać dzion tydnia, nie ŭspaminajučy nazovu nivodnaha dnia?
4. Na dźviarach kramy visić tablička z napisam: „Siońnia pradajecca za hrošy, a zaŭtra napavier?“ Kali ŭ joj možna kupić napavier?

### Arytmetyčnaja zadača № 1.

Sialanka pryniasła na rynak košyk jabłyk. Pieršamu kupcu pradała pałovu ŭsich jabłyk i jašče paŭjabłyka; druhomu—pałovu rešty i jašče paŭjabłyka, treciamu — pałovu novaj rešty i jašče paŭjabłyka i h. d. Kali šosty kupiec kupiŭ u sialanki apošniuju pałovu jabłyk i paŭjabłyka, to akazałasia, što jon i ŭsie papiarednija kupcy majuć cełyja jabłyki, a sialanka pradała ŭsie svaje jabłyki.

Kolki jabłyk było ŭ sialanki i kolki jabłyk kupiŭ kožny kupiec?

### Gieometryčnaja zadača № 1.

Sažałka maje formu kvadrata, u kožnym kucie katoraha raście dzierava.

Jak pabolšyć u 2 razy sažałku, kab jana iznoŭ mieła formu kvadrata i astalisia na miescy drevy?

U V A H A: Prosim usich padpiščykaŭ i čytačoŭ „Šlachu Moładzi“ prysyłać u „kutok razryvak“ zadačy, krucibałoŭki, lohohryfy, šarady i h. d., kali treba z pajaśniajučymi rysunkami. Što znojdziem adpaviednym — budziem źmiaščać na staronkach našaha časapisu.